У нумары: Аб пачатках друкарні ў Супраслі · На смеццях пані маршалковай · Да пары збан ваду насіў...


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 22 (431) | ГОД IX | 31 МАЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.




Школа з трансфарматарам як бы згаварыліся на суседства. Адно і другое стала першай патрэбаю ў сённяшнім вясковым жыцці, гаспадарцы.

## УСЁ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Кожны год святкуем гэты дзень пад іншым лозунгам. У гэтым годзе лозунг — «Твая праца на карысць дзіцяці ў XX-годдзе ПНР». Ужо ў сакавіку быў створаны ваяводскі камітэт святкавання Дня дзіцяці.

Варта з выпадку дзіцячага свята сказаць крыху аб такой гуманітарнай арганізацыі, як ТПД. Тым больш, што мы мала пра яе чуем.

Сама назва ўжо гаворыць, што гэта прыяцелі дзяцей. І ўся дзейнасць таварыства ідзе ў напрамку стварэння дзіцяці адпаведных умоў для адпачынку і развіцця. Асноўнае заданне ТПД на практыцы — арганізацыя вольнага часу дзіцяці, гэта значыць, па-за школьнага часу. Лічбы, бадай, найменш пасуюць да гэтай дзейнасці, дзейнасці наскрозь грамадскай і няўлоўнай (забавіць дзіця суседа — такую работу не пакажа ніякая статыстыка), але некалькі дадзеных прывядзем: самай папулярнай формай працы ТПД на вёсцы бываюць прадшкольныя арганізацыі (у мінулым годзе было іх 103) і дзяцінцы (124). Існуюць 203 вясковыя гурткі ТПД з 4159 членамі.

Інакш кажучы, 4159 сапраўдных прыяцеляў дзяцей на вёсцы. Сваю ідэю — за ўсмешку і шчасце дзіцяці — ТПД рэалізуе праз дарослых людзей, бацькоў.

Праз іх супольнае старанне, праз узаемадапамогу, пэўную форму дзяжурстваў: сёння я і ты апякуемся нашымі дзяцьмі — і нічога дрэннага ім не стане, будзьце ўсе спакойны, займіцеся чым хочаце. Заўтра прыйдзе ваша чарга. Такая форма дзейнасці шырока распаўсюджана ў высакаразвітых краінах на Захадзе. У нас з гэтым лепш у горадзе. Але ідэалам было б, каб такая праца знайшла добры грунт на вёсцы — усё для той жа шчаслівай усмешкі дзіцяці.

(Працяг на стар. 2)



СЁННЯ НАША СВЯТА!

фота Ю. Рыбінскі

* * *

Яшчэ нам памятны
    фашысты-ліхадзеі,
Мінулых, змрочных дзён
    жахлівыя малюнкі,
Калі расстрэльвалі
    бязлітасна дзяцей,
Жывцом закопвалі
    з матулямі малютак...
Я сёння чую смех
    шчаслівых нашых дзетак,
Гляджу на тварыкі,
    што макам пунсавеюць.
Як плынь крынічная,
    як гожасць майскіх кветак,
Яны прывабнасцю
    заўжды мне сэрца грэюць.
Ніколі не магу
    глядзець без хвалявання
У блакіт іх вачанят,
    рахманых і нявінных,
Дзе адлюстроўвацца
    усцяж вясёлкі званне —
Святло пагодных дзён,
    святло мае краіны.
І слухаць не магу
    спакойна я ніколі,
Як маці з чуласцю
    спявае калыханку,
А ў думках казачны
    ўзнікае мімаволі
Яе дзіцяці шлях,
    ухвечаны заранкай...
Мы не дазволім зноў
    занесці нож забойчы
Над нашай радасцю —
    над роднай дзетварою.
Не будуць больш цячы
    крыніцы слёз сірочых,
Народы кажуць: «Прэч
    з крываваю вайною!»

МІХАСЬ ВАСІЛЁК



Першае, што пачуеш у Крушынянах — гэта просьбы аб камасацыі зямлі. Камасацыя стала праграмаю крушынянскіх людзей. У ёй яны бачаць магчымасць прагрэсу сваёй вёскі.

Не размахнешся на шнураватай палосцы. Кінеш жменю ўгнаення, возьме і паляціць з ветрам на палоску суседа — хочаш, сей на каленях. Але не заўсёды дзьме вецер, людзі хочуць штучных угнаенняў... Заедуць да ГС-у ў Крынках, а там крынчакі ўжо абступілі склад, бяруць — дзяруць суперфасфаты, аж часамі міліцыя годзіць іх. Крушынянцам застаецца, што кот наплакаў...

На панадворку А. Макаля, што жыве каля школы, стаіць малатарня — пакрытая брызентам, матор пад дахам. Ёсць і яшчэ адзін матор да яе — электрычны. Макаль з'яўляецца старшынёю сельскагаспадарчага гуртка і ўсю гэту




грамадскую тэхніку трымае пад сваім вокам (для пэўнасці). Ён не квапіцца хваліцца, хаця ёсць чым пахваліцца: гурток дабіўся 12 тыс. зл. чыстага даходу. Ён на свой спосаб пераймаецца камасацыяй, якая дасць праход для тэхнікі на палях (і трактар змесціцца). Машыны моцна патрэбны тутэйшай гаспадарцы, павінны замяніць тыя дзесяткі і сотні працоўных рук, што выбываюць у горад — на будоўлі, у прамысловасць. Аднак, дзе як дзе, але тут я не меў жалю да гэтых «уцякаючых рук», якія дарэмна (паўдарэмна) трацілі сілы на пясчаных палетках. Глеба, пераважна, пятага або шостага класа; ураджаі ніжэй усякіх граніц даходнасці (6—10 цэнтнераў з гектара). Прытым, мясцамі да таго камяністая, што многія прадаюць крушні каменняў для нейкай беластоцкай фірмы ў цане па 80 злотых за 1 $м^3$ (грошы, як з неба!). Грузіць не трэба, фірма прысылае ўласны транспарт і рабочых.

Ведаем, што ў перадваенныя часы ў гарадах было беспрацоўе, а ў вёсках — перанасяленне, цеснага. І жоўты пагорак цаніўся, хаця на ім чалавек мала больш нажаў, ніж высеяў. Цяпер наадварот, і гэту адваротную сітуацыю асабліва моцна адчуеш, калі паходзіш па апусцелых крушынянскіх панадворках, хатах. Ці гэта дрэнна — не скажу, але пэўна адно: ніхто не мяняе лепшага на горшае.

...Мабыць, яшчэ дзесяць год таму назад справа камасацыі зводзілася б да ліквідацыі церасналосіцы. Зараз абазначае яна ў першую чаргу паляпшэнне гаспадарак, даць ім тыя лепшыя абшары.

Некалі мнагалюдныя Крушыняны расперліся на немалой прасторы — 2.900 гектараў, з чаго амаль палову зямлі можна са спакойным сумленнем звярнуць назад даўняму яе ўладару — лесу (засадзіць лесам). Гаспадарыць трэба на добрых, прыдатных землях, а такія ёсць — па некалькі гектараў у кожнай з двухсот гаспадарак. Шмат з іх цалкам пакінуты, альбо не маюць рацыі быту. Яны — нямыя сведкі колішняй жыццёвай бязвыхаднасці.

(Працяг на стар. 4)





Л. ЮР'ЕЎ: Сустрэча старых саратнікаў.

В. РУДЧЫК: Кроўю, рукамі, думкамі.

ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА.

 

# ЛАОСУ ПАТРЭБЕН НЕЙТРАЛІТЭТ

Два гады назад у Жэневе быў падпісаны дагавор, гарантуючы нейтралітэт Лаоса ў міжнародных суадносінах. Яго падпісала 19 дзяржаў — удзельнікаў канферэнцыі, у тым ліку чатыры вялікія дзяржавы, краіны, мяжуючыя з Лаосам, а таксама Індыя, Канада і Польшча. Разам з тым прадстаўнікі Індыі, Канады і Польшчы стварылі Камісію кантролю, якая павінна была пільнаваць, каб выконваліся ўсе ўмовы дагавору.

Што ж было найважнейшае ў гэтым дагаворы? Згодна з дагаворам, у Лаосе павінен быў быць створаны кааліцыйны ўрад, у які ўвайшлі б прадстаўнікі трох палітычных груповак: нейтралістаў, левых і правых. Сувана Фума, прадстаўнік нейтралістаў, павінен быў застацца прэм'ерам, кіраўнікі двух другіх груповак — віцэ-прэм'ерамі. Міністры павінны былі быць выбраны раўнамерна з кожнай групоўкі. Пазней трэба было аб'яднаць узброеныя сілы трох груповак. І, нарэшце, аднаўленне і развіццё гаспадаркі краіны павінна было абапірацца на ўласныя сілы і такую дапамогу заграніцы, якая не была б звязана з нейкімі палітычнымі ўмовамі.

За мінуўшыя два гады была рэалізавана толькі першая ўмова, прычым рэалізавана фармальна. Праўда, быў у Лаосе створаны кааліцыйны ўрад, аднак ён не пачаў нават фармальна дзейнічаць з-за супраціўлення рэакцыі. Хоць правыя прадстаўляюць сабой найслабейшую групоўку і кантралююць толькі трэцюю частку тэрыторыі, яны захапілі найважнейшыя дзяржаўныя пасады — міністра замежных спраў, міністра ўнутраных спраў і міністра гаспадаркі.

Дзве іншыя ўмовы — аб'яднанне ўзброеных сіл і планавае аднаўленне гаспадаркі — не былі выкананы. Наадварот, правыя не прапусцілі ніводнай магчымасці, каб павялічыць раскол паміж групоўкамі. У апошні час, напрыклад, сілы рэакцыі пачалі выцясняць узброеныя сілы левых — Патэт-Лао з цэнтра краіны, пачалі падкупоўваць нейтральныя атрады Конг-Ле і нарэшце ў сярэдзіне красавіка арганізавалі вайсковы бунт у сталіцы В'енцьяне.

Ніхто не сумняваецца ў тым, што такую дзейнасць рэакцыі падтрымлівалі і фінансавалі Злучаныя Штаты Амерыкі. Толькі пры такіх умовах рэакцыянеры адважыліся зрабіць блакаду будынка польскага прадстаўніцтва з Камісіі кантролю.

Аднак правыя і стаячы за іх плячыма Вашынгтон пераацанілі свае магчымасці. Доказам гэтага можа паслужыць хоць бы той факт, што атрады Конг-Ле былі разбіты, а палова салдат перайшла на бок Патэт-Лао, каб бараніць сапраўдны нейтралітэт краіны.

Рэакцыянеры Лаосу спаткаліся таксама з рашучым супраціўленнем міжнародных сіл. Міністры замежных спраў СССР і Вялікабрытаніі, якія вялі жэнеўскую канферэнцыю, яшчэ раз пацвердзілі сваю волю аб устанаўленні ў Лаосе поўнага нейтралітэту. Францыя запрапанавала склікаць новую канферэнцыю, каб яшчэ раз прадыскутаваць над нейтральнасцю Лаосу і ўсёй Паўднёва - усходняй Азіі. У такой сітуацыі ЗША, якія намерваліся выклікаць у Лаосе грамадзянскую вайну, як у Паўднёвым В'етнаме, значыць, з непасрэдным удзелам іх арміі, засталіся без падтрымкі.

Такім чынам, Лаос усё яшчэ мае шанцы на захаванне міру ў краіне і будовы нейтральнай дзяржавы згодна з воляй свайго народа і прагрэсіўных сіл усяго свету.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# Грамадства Беласточчыны поўнасцю падтрымлівае тэзісы на IV З'езд партыі



Фрагмент прэзідыума канферэнцыі (злева направа): І-шы сакратар ВК ПАРП у Беластоку А. Лашэвіч, І-шы сакратар ЦК ПАРП Ул. Гамулка і І-шы сакратар ГК ПАРП у Беластоку Ю. Трусевіч. фота: Ю. Мазурэк

**Два дні з удзелам І-шага сакратара ЦК ПАРП Уладзіслава Гамулкі праходзіла ў Беластоку перадз'ездаўская канферэнцыя беластоцкай партыйнай арганізацыі.**

**Канферэнцыя падвяла вынікі перадз'ездаўскай кампаніі ў ваяводстве, ацаніла дагэтуляшнія дасягненні ў гаспадарчым і культурным развіцці ваяводства і выбрала 37 дэлегатаў на IV З'езд партыі.**

**Перадз'ездаўская дыскусія, — сказаў у сваім дакладзе І-шы сакратар ВК ПАРП у Беластоку А. Лашэвіч, — стала крыніцай сур'ёзнага ажыўлення палітычнай дзейнасці ваяводскай партыйнай арганізацыі. У перадз'ездаўскай дыскусіі правільна адзначаўся сур'ёзны ўдзел Беласточчыны ў дасягненнях 20-годдзя Народнай Польшчы. Найбольш увагі прысвечана далейшым напрамкам развіцця ваяводства. Правільна адзначалася, што шэраг год галоўным напрамкам развіцця Беласточчыны будзе інтэнсіфікацыя сельскагаспадарчай вытворчасці. Накрэслены ў з'ездаўскіх тэзісах рост сельскагаспадарчай вытворчасці ў 1966 — 1970 гадах на 14—15 працэнтаў ва ўмовах Беласточчыны можа быць поўнасцю выкананы і нават перавыкананы. Адным з важных рэзерваў сельскагаспадарчай вытворчасці ў ваяводстве з'яўляюцца 200 тыс. гектараў зямельных угоддзяў, якія яшчэ поўнасцю не загаспадараваны. Яны маглі б даць 100 тыс. тон збожжа ў год, што садзейнічала б ліквідацыі адмоўнага збожжава - кармавога балансу акругі. Сур'ёзнага павелічэння сельскагаспадарчай вытворчасці можна дабіцца на Беласточчыне шляхам насілення мінеральнага і арганічнага ўгнаення зямлі. Далейшы рэзерв беластоцкай сельскай гаспадаркі — гэта амаль 500 тыс. гектараў паш. Далейшая меліярацыя будзе садзейнічаць павелічэнню вытворчасці сена і развіццю жывёлагадоўлі.**

**Прамысловасць ваяводства павінна спецыялізавацца ў апрацоўцы сельскагаспадарчых прадуктаў. Цяпер з Беласточчыны вывозіцца ў год у сярэднім 200 тыс. тон цукровых буракоў, 30 тыс. тон жывой вагі жывёлы і шэраг іншай сельскагаспадарчай сыравіны, якую, пабудаваўшы адпаведныя прадпрыемствы, можна было б апрацоўваць на месцы.**

**У дыскусіі дэлегаты на ваяводскую канферэнцыю найбольш увагі прысвяцілі выкарыстанню існуючых рэзерваў. Перш за ўсё гаварылася аб рэзервах у сельскай гаспадарцы.**

**З вялікай увагай прысутныя выслухалі выступленне І сакратара ЦК ПАРП Ул. Гамулкі. Прысвечана яно было актуальным заданням беластоцкай ваяводскай партыйнай арганізацыі ў галіне сельскай гаспадаркі. Адзначыўшы сур'ёзныя дасягненні ваяводскай партыйнай арганізацыі, Уладзіслаў Гамулка сцвердзіў, што дыскусія на канферэнцыі паказала, што тэзісы на IV З'езд сустрэліся з поўнай падтрымкай беластоцкай партыйнай арганізацыі і грамадства Беласточчыны.**

**Тав. Гамулка звярнуў таксама ўвагу і на некаторыя недахопы. Ведаем аб тым, — сказаў ён, — што няма сёння селяніна, які б не разумеў значэння штучнага ўгнаення для росту сельскагаспадарчай вытворчасці. Усё больш усведамляецца роля трактара для селяніна. Аднак ёсць прыклады, якія гавораць, што чалавек яшчэ не перамог кансерватызм. Аб гэтым гаворыць вельмі маруднае развіццё хімічнай барацьбы з пустазеллем на палях. У гэтай галіне ў Вашай акрузе робяцца толькі першыя крокі. Недастаткова таксама вырашаецца праблема рацыянальнага кармлення жывёлы. Усё яшчэ з неахвотай і недаверам адносіцца большасць сялян Вашай акругі да пытання інсемінацыі. З праблемай барацьбы з кансерватызмам вяжацца адно з асноўных заданняў: арганізацыйна - усведамляючая дзейнасць, якая б мабілізавала людзей на барацьбу за прагрэс. Гэта заданне ўсіх партыйных арганізацый, сельскагаспадарчай службы, ЗМВ, ГС-аў і рад нарадовых. Чым лепшай і больш актыўнай будзе Ваша дзейнасць у гэтым крузе, тым хутчэй будзе ісці наперад сельская гаспадарка.**

**Ваша партыйная арганізацыя, — сцвердзіў на заканчэнне тав. Гамулка, — з'яўляецца добрай арганізацыяй, мае шэраг сур'ёзных дасягненняў. Так як і цэлая партыя, знаходзіць усё шырэйшую апору ў масах. Доказам гэтага з'яўляюцца шматлікія абавязацельствы, прадукцыйная і грамадская праца, якія падымаюць жыхары гарадоў і вёсак усёй краіны для адзначэння IV З'езда партыі. На IV З'ездзе, — сказаў далей тав. Гамулка, — будуць вызначаны новыя заданні, якія будзе рэалізаваць уся партыя і народ. Гэта будуць сур'ёзныя заданні. Але так сама вялікія і ўсё ўзрастаючыя ў нас сілы партыі, сілы ўсяго народа.**



Дэлегаты ў час канферэнцыі фота: Ю. Мазурэк

УСПАМІНЫ КАМУНІСТАЎ

# Уладзімір Станкевіч. АДЗІН З МНОГІХ

22)

Седзячы ў Каранове, я амаль не зарабіў новага, не менш чатырохгадовага прыгавору за «камуністычную дзейнасць у турме». Нелегальную камуністычную літаратуру мы атрымоўвалі ў турму ў Каранове «легальна». Справа ў тым, што турэмны наглянік, які кіраваў кантролем прысылаемых вязням пасылак, быў намі «апрацаваны». Ён ведаў, што пасылкі, якія прыходзілі на маё прозвішча, павінен кантраляваць сам, прычым так, каб былі яны «скантраляваны», але ўложаная ў яе літаратура не была абнаружана. Увесь 1934 год і пачатак 1935 года ўсё ішло добра: я рэгулярна раз, а часам два разы ў месяц атрымоўваў з Варшавы пасылку, у якой былі кавалак саланіны або шмальцу, кавалак масла, цукар і яшчэ што-небудзь з ежы і кашуля або нагавіцы, а вось у гэта ў сярэдзіну была ўкручана заўсёды пачка літаратуры. Наглянік (на жаль, прозвішча яго не памятаю) маю браўся кантраляваць пасылку асабіста. Ён спрытна нібы абмацваў кашулю ці нагавіцы і адкладаў, але надта дакладна аглядаў ежу, рэзаў на кавалачкі, аглядаў з усіх бакоў. Я забіраў пасылку, ішоў у камеру і мы мелі свежую партыйную літаратуру, з якой мы даведваліся аб падзеях у Польшчы і ва ўсім свеце.

У палове красавіка 1935 года паклікалі мяне па пасылку. Калі, увайшоўшы ў пакой, у якім выдавалі пасылкі, я не ўбачыў у ім нашага наглядальніка, я ўжо ведаў, што літаратура будзе знойдзена і я буду мець судовую справу. Таму я зараз перад распакоўваннем маёй пасылкі спытаў, адкуль і ад каго яна. А калі стражнік сказаў, што з Варшавы, я заявіў:

— Тут нейкая памылка, гэта не для мяне пасылка, бо я ў Варшаве не толькі сваякоў, але і знаёмых не маю. Я чужой пасылкі не хачу і не прыму.

— Іншага Уладзіміра Станкевіча ў нашай турме няма, — сказаў стражнік. — Зрэшты, дзіўны з вас чалавек, даюць — дык трэба браць, тым больш ежу.

— Не, я чужога не вазьму, — заявіў я станоўча.

Стражнік, спрачаючыся са мною, раскрыў пасылку, падняў нагавіцы, а з іх выпаў на падлогу вялікі скрутак паперы. У той час увайшоў якраз у пакой турэмны інспектар. Пачуўшы нашы спрэчкі, падышоў да нас у момант, калі выпаў з нагавіц скрутак. Схіліўся, падняў, а развязаўшы і зірнуўшы на напіс: «Чэрвоны Штандар» — орган ЦК КПП», ускрыкнуў:

— Ого-го — гэта ж камуністычная папера.

— Я ж заяўляў, што гэта не для мяне пасылка, — адазваўся я зноў. — Гэта нейкая правакацыя паліцыі. Я пратэстую і дамагаюся высвнення і пакарання віноўных, — станоўча заявіў я і вышаў з пакою.

За два тыдні паклікалі мяне і завялі ў кабінет начальніка турмы, дзе прывітаў мяне пракурор:

— Як відаць, мала вам дагэтуляшніх двух прыгавораў за камуністычную дзейнасць, бо далей дзейнічаеце ў турме, распаўсюджваючы сярод вязняў камуністычную літаратуру. Я расказаў пракурору, як я не прыняў пасылкі, як заяўляў яшчэ перад адкрыццём яе і сказаў яму так:

— Мы мелі, маем і будзем мець сувязь з воляй, але не такім спосабам, як гэта хоча нам справакаваць паліцыя. Бо трэба быць хіба дурным нават правакатарам, каб пасылаць у турму такім спосабам літаратуру.

Начальнік турмы, можа таму, каб пракурору даказаць, што ў яго парадак, пачаў выясняць справу пасвойму:

— Я думаю, што зрабіў гэта якісь смаркаты камсамолец, які не знаючы турэмных абставін, надумаўся прыслаць у турму камуністам першамайскі падарунак. Узяў у Сэмпалоўскай (Стэфанія Сэмпалоўская — гэта знаны ў міжваеннай Польшчы грамадскі дзеяч, педагог, апякун палітычных вязняў, якія добра ведалі яе памяшканне ў Варшаве на вул. Смольнай. Са сродкаў Міжнароднай Арганізацыі Дапамогі Рэвалюцыянерам яна прысылала палітычным вязням грошы і адзежу), адрас, зрабіў пасылку, у якую ўлажыў літаратуру і выслаў.

Пракурор, распытаўшы мяне падрабязна аб выдаванні мне пасылкі, напісаў так, як я гаварыў, пратакол, які я падпісаў. За некалькі тыдняў я атрымаў паведамленне ад пракурора, што расследванне ў справе пасылкі з камуністычнай літаратурай спынена ў сувязі з недахопам канкрэтных доказаў маёй віны. Вядома, больш ужо на маё прозвішча пасылак з Варшавы не было, але літаратуру мы атрымоўвалі і далей пры дапамозе нашага наглядніка.

У караноўскай турме я шмат вучыўся, бо ўмовы для вучобы там былі добрыя. Бяда толькі была з маім здароўем. Катаванне ў час арыштаў у Беластоку, нягле-



 

ДАРОГА СЛАВЫ


Штаб партызанскай брыгады «У імя Радзімы». Другі справа — камандзір брыгады, палкоўнік Міхась Янкоўскі («Мартынаў»).

# У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

У Белавежскай пушчы ішла смяртэльная барацьба з фашыстамі. Аб ёй успамінае Рыгор Саевіч, партызан атрада імя Дзяржынскага:

«База нашага атрада ў маі 1944 года размяшчалася ў 211 квартале Белавежскай пушчы. Немцы пры дапамозе здраднікаў даведаліся аб месцы стаянкі нашага атрада.

Была раніца 6 мая 1944 года. Партызанскі лагер яшчэ спаў. Вокрык «Немцы!» падарваў нас тады, калі ўжо на паляну пасыпалася лавіна агню. Мы са зброяй у руках выскачылі з шалашоў і пачалі хаатычна адстрэльвацца. Асноўныя сілы немцаў наступалі з усходу, але агонь набліжаўся і з іншых бакоў. Разгарэўся няроўны бой. Група дэсантнікаў — разведчыкаў скочыла ў шалаш ратаваць радыёстанцыю. Чатырох іх тады загінула. Усё больш было раненых. Аб ратаванні абсталявання не было чаго і думаць. Мы адступілі толькі са зброяй у руках. Раненых забралі з сабой. Немцы хутка занялі наш лагер. Ноччу мы вярнуліся на месца бою. Там ляжалі целы чатырох загінуўшых разведчыкаў. Гэта былі маладыя хлопцы. камсамольцы, добраахвотнікі з далёкай Масквы. Назаўсёды засталіся ў тым месцы Белавежскай пушчы.

Калі пачалося чэрвеньскае наступленне, мяне паклікаў камандзір брыгады «У імя Радзімы» палкоўнік Мартынаў і загадаў дабрацца да генерала Капусты, перадаць яму весткі аб становішчы ў раёне Гайнаўкі, Бельска, Белавежы і вусна паінфармаваць аб нямецкай сістэме абароны ў гэтым раёне. З групай партызан я пайшоў на ўсход. Дарогі і лясныя тракты былі запоўнены адступаючымі гітлераўцамі. З цяжкасцю прабіраліся мы на ўсход. Так мы дабраліся амаль да Косава-Палескага. З усходу нарастаў гул артылерыі. Да генерала Капусты мы не дайшлі. Спаткалі Савецкую Армію, якая, як лавіна, пасоўвалася наперад. Партызанскае данясенне, якое мы неслі, перадалі дывізіі, наступаючай у напрамку Белавежа — Гайнаўка, а самі далучыліся да савецкіх аўтаматчыкаў. Мы вялі байцоў праз палескія балоты. Нечакана нападалі на немцаў і імкнуліся хутчэй у свае родныя мясціны. Я давёў савецкіх воінаў да Белавежы. Знянацку напалі на немцаў. Узарвалі два танкі, абыйшлі Белавежу і паімчаліся ў бок Гайнаўкі ратаваць мясцовыя фабрыкі. Першая атака на Гайнаўку пачалася ноччу з боку Ліпін. Моцным нечаканым ударам танкаў і пяхоты Савецкая армія выгнала немцаў з горада і выратавала ад знішчэння лесапільню і хімічную фабрыку. 22 ліпеня 1944 года Гайнаўка і аколіцы былі вызвалены ад ворага. Партызаны вышлі з пушчы...»

**А. АМІЛЬЯНОВІЧ**


Хведар Бяглюк з Дубін, былы партызан атрада імя Дзяржынскага (Белавежская пушча).


Кастусь Новік з Лукі, былы партызан атрада імя Кутузава (Белавежская пушча).


Партызаны брыгады «У імя Радзімы» ў Белавежскай пушчы.

# ВІЗІТ ДРУЖБЫ

З нагоды XX-годдзя Польскай Народнай Рэспублікі і адзначэння дзён асветы кніжкі і друку Беласточчыну наведала маладзёжная дэлегацыя Інстытута педагогікі з Гродна на чале з прарэктарам тав. Сельвановічам. Дэлегацыя была госцем I і II настаўніцкіх студый ў Беластоку. У час спаткання з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацый — Саюза сялянскай моладзі, Саюза сацыялістычнай моладзі і Саюза польскіх гарцэраў — многа гаварылася аб ідэйна - выхаваўчай працы будучых настаўнікаў, якія накіроўваюцца пераважна ў вясковыя школы. Вечарам члены дэлегацыі былі на студэнцкай вечарыне.

На другі дзень госці з Гродна выехалі ў Варшаву і пабывалі там у Палацы культуры і навукі, Варшаўскім універсітэце, Нарадовым музеі, музеі Войска Польскага, Лазенках і на Старым месце.

У нядзелю дэлегацыя ўзяла удзел у „Гвяздзістым паходзе" моладзі ў Беластоку і пабывала на выстаўцы „Дасягненні школьніцтва на Беласточчыне за XX-годдзе Народнай Польшчы". На заканчэнне візіта дружбы дэлегацыя падзякавала за цёплы прыём і запрасіла настаўнікаў і студэнтаў наведаць Гродзенскі інстытут педагогікі.

Тэкст і фота **Пётр ГРЫГАРУК - СЕМЯНЮК**


Абмен значкамі


Госці накіроўваюцца ў Дом студэнта.


Дэлегацыя з Гродна

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# БУЛЬБА

Бульба робіць кар'еру. Зусім не пераўвялічваю. Яна займае ў нашым ваяводстве звыш 180 тыс. гектараў, а сярэдні ўраджай склаў у мінулым годзе 160 цэнтнераў з гектара. Гэта ўжо дасягненне, гэта ўжо добрае пасведчанне для нашых сялян, гэта ўжо дае перспектыву вырошчвання на патрэбы ўсёй краіны і на экспарт.

Аднак ёсць лікі і вынікі, якія выклікаюць разважанні. У Бельскім, Гайнаўскім ці Сямяціцкім паветах, сяляне - доследнікі дабіваюцца нават 400 ц бульбы з гектара. Гэта рэкордныя ўраджаі, але яны паказваюць шанцы і магчымасці нашага ваяводства ў вырошчванні гэтай культуры.

Вырошчваем розныя гатункі: «Вышаборская», «Эпоха», «Фіта», «Эверэст», «Піянер» і шмат іншых.

Які выбраць? Гэта залежыць ад розных умоў. Найлепш параяць сяляне — доследнікі вашага раёну.

Бульба — патрабавальная расліна, асабліва любіць добра ўгноеную глебу. Абавязковы мінеральныя ўгнаенні. Даем пад бульбу 200 — 300 цэнтнераў гною, пераважна вясной (павінен быць добра перагніўшы). Заворваем яго на глыбіню 15 см.

У апошні час прымяняюць іншы метад выкарыстоўвання гною. Пры аранні ствараюцца барозны і ў іх спадае гной, які потым лёгка прыкрываем пры баранаванні. Тады застаюцца сляды баразнаў, у якія садзім бульбу. Такі метад дазваляе атрымліваць тыя самыя ўраджаі пры меншай колькасці гною (20 ц на га).

Добры ўраджай дае бульба, пасаджаная на завораных зялёных угнаеннях. Вельмі добрым арганічным угнаеннем з'яўляюцца гнаёва - тарфяныя кампосты. На гэтае ўгнаенне трэба звярнуць больш увагі ў сувязі з вялікімі ў нас запасамі торфу і недахопам гною.

Цікавы вопыт здабыў Аляксандр Ахрымюк з Сакаў (Бельскі павет). Прымяніўшы гнаёва - тарфяны кампост, ён дабіўся павышэння ўраджаю на 72 цэнтнеры з гектара ў параўнанні з суседнім полем, дзе арганічнага ўгнаення не даваў. Мінеральнае ўгнаенне ў гэтым выпадку абапіралася на 30 кг фосфару і 60 кг калію.

Важнае значэнне на ўраджай мае адпаведны дабор саджанцаў. Гэта павінны быць адборныя клубні адпаведнага гатунку, які найлепш расце ў даных умовах. На адзін гектар трэба 20—30 цэнтнераў саджанцаў.

На Беласточчыне яшчэ пераважна садзяць бульбу ўручную. У бліжэйшыя гады шырока будуць уводзіцца механічныя бульбасаджалкі. Існуе неабходнасць закупіць больш бульбакапалак. Наогул, сур'ёзнай праблемай у барацьбе за высокія ўраджаі і змяншэнне сабекоштаў прадукцыі з'яўляецца змяншэнне ручной працы і большая механізацыя.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

# УСЁ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**(Працяг са стар. 1)**

**Аб працы грамадскім чынам людзі ўжо наслухаліся нямала. Нямала і самі зрабілі — Беласточчына ж займае першае месца ў краіне. А тут маем яшчэ адзін лозунг, заклікаючы да грамадскай працы — да працы на карысць дзіцяці. Цудоўна! Для дзіцяці ўсё. Сама вялікая і высокая Арганізацыя Аб'яднаных Нацый замацавала права дзіцяці да ўсяго, што шчасцем завецца, таму наша праца для дзіцяці ў наша XX-годдзе вельмі патрэбна. Падпісваемся пад гэтым абедзвюма рукамі. Але як гэта праца мае выглядаць? Грамадскім чынам падрыхтаваная пляцоўка для гульняў, нейкая гойданка, крыху жоўтага пяску — і дзеці ўжо маюць сваё месца. Шырэй успрынятая праца для дзіцяці — упарадкаваны панадворак, чыстая вуліца, пасаджаныя дрэўцы і міжсуседская апека, аб якой гаварылі раней.**

**Вельмі пажадана, каб ініцыятыва бацькоў была такой жывой, каб пры дапамозе ТПД яны арганізавалі і вялі ў сваіх вёсках так званыя дзіцячыя самаўпраўленні. На вёсцы ў нас ёсць пакуль яшчэ адно такое самаўпраўленне — у Замброўскім павеце. Выглядае гэта так: група дзяцей з палавіны вёскі ці з цэлай утварае мініятурную арганізацыю, выбірае старшыню і пачынае працу: апеку над малодшымі, супольныя гульні, экскурсіі ў лес, апеку над дрэўцамі, птушкамі, утрымліванне парадку і чысціні, збор злому і макулатуры і г.д. Старэйшыя наглядаюць над малышамі і пабуджаюць іх творчую ініцыятыву чыніць дабро А такой ахвоты ў дзяцей не бракуе.**

**А да ўсіх бацькоў, усіх прыяцеляў дзіцяці звяртаемся і мы з заклікам: «Твая праца на карысць дзіцяці».**

